Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 18 (4476)**

3 сакавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПАДЛІЧЫЛІ...

## На пачатку года – мінус 170 рублёў...

*Паводле звестак Галоўнага статыстычнага ўпраўлення Гродзенскай вобласці, сярэдні заробак без выліку падаткаў за студзень 2020 года ў Гродне складаў 1087,5 рубля. У параўнанні са снежнем 2019 года заробак знізіўся на 170 рублёў. Дарэчы, снежаньскі сярэдні заробак у 1257,3 рубля быў рэкордным для Гродна.*

**У Гомелі распачата ўзвядзенне 60-метровага флагштока для дзяржаўнага сцяга. Разам з чарговай заменай пліткі на прылеглай плошчы гэта абыдзецца гарадскому бюджэту амаль у паўтара мільёна рублёў.**

**У той час, калі з перабоямі працуюць заводы «Гомсельмаша», у многіх людзей мізэрныя заробкі і пенсіі, чыноўнікі марнуюць народныя грошы, як быццам сёння не пражыць без паказушнай пампезнасці.** (Артыкул «Сцяг у Гомелі» чытайце на 2-й стар.)

ПАЛІТКУХНЯ

## Кангрэса пакуль не будзе

*Запланаваны на 15 сакавіка Кангрэс у абарону незалежнасці пераносіцца.*

Пра гэта паведаміла былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы" Алена Анісім.

"Хачу паведаміць, што самае важнае арганізацыйнае пытанне для правядзення гэтага мерапрыемства наша арганізацыя вырашыла: у нас на руках пацвярджэнне браніравання залы ў прэстыжным месцы менавіта на гэту дату, – *распавяла яна.* – Шкада, што ўсе намаганні аказаліся дарэмнымі. Але віны ТБМ у гэтым няма. Мы зрабілі ўсё, што ад нас залежала, каб гэты форум адбыўся ў запланаваны час і ў абазначаным фармаце. Хто будзе займацца гэтым на іншыя даты, не ведаю. Але не мы".

Паводле папярэдняй інфармацыі, Кангрэс перанеслі прыкладна на месяц, бо не паспелі як след падрыхтавацца да мерапрыемства.

"*У сувязі з неабходнасцю ажыццяўлення ўсёй арганізацыйнай працы (правядзення мерапрыемстваў па тэматычных накірунках у выглядзе "круглых сталоў" або ў іншым фармаце з удзелам экспертаў) вырашана перанесці дату правядзення Кангрэса (дакладна не прызначана, але прыкладна на месяц, да Чарнобыльскага Шляху 26 красавіка)*", – паведаміў старшыня аргкамітэта Кангрэса **Ігар Рынкевіч**.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## Ці прыслухаюцца да голасу Алеся Дзергачова?

*Праваабаронца са Смаргоні Алесь Дзергачоў прыйшоў да высновы, што існуючае заканадаўства, якое прадугледжвае падсумаванне тэрмінаў пры прызначэнні пакарання, носіць дыскрымінацыйны характар.*

Алесь Дзергачоў накіраваў у Палату прадстаўнікоў прапанову аб тым, каб дэпутаты разгледзелі пытанне аб унясенні змен у адпаведны артыкул КаАП. Пры гэтым прадугледзелі, што ў выпадках, калі пасля ўступлення ў сілу пастановы суда ці органа, які вядзе адміністрацыйны працэс аб прыцягненні грамадзяніна да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе адміністрацыйнага арышту, уступаюць у сілу новыя пастановы аб такіх жа спагнаннях за раней здзейсненыя правапарушэнні, яны падлягаюць выкананню з разліку, што не будуць у суме перавышаць 25 сутак.

Паводле адказу з Палаты прадстаўнікоў за подпісам старшыні Пастаяннай камісіі па заканадаўстве **Святланы Любецкай**, прапановы прыняты да ведама і будуць разгледжаны пры падрыхтоўцы праекта новага КаАП Рэспублікі Беларусь.

РЭДКІ ВЫПАДАК

## Судзяць... суддзю




Яшчэ ў 2017 годзе старшыню Мінскага раённага суда Аляксандра Хаванскага адхілілі ад пасады за ўчынак, несумяшчальны з дзяржслужбай. І вось зараз Хаванскі на лаве падсудных. Яго вінавацяць у крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі – былы суддзя можа сесці на 10 гадоў.

Разгляд справы ідзе ў Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь.

**На фота: Аляксандр Хаванскі абураецца, што яго здымаюць, таму ён закрывае твар тэчкай для папер.**

ЗВОНОК В РЕДАКЦИЮ

## Так кто же убил 37-летнего предпринимателя Валерия Янчака?

Вчера в редакцию позвонил один из жителей Городокского района. Он напомнил, что вечером 21 февраля в их лесном массиве был убит предприниматель из Докшиц Валерий Янчак.

Прошло более десяти дней, а от следственных органов информации о том, при каких обстоятельствах и кто конкретно выстрелил в предпринимателя, нет. Позвонивший в редакцию считает, что все это порождает ненужные слухи. Мол, говорят, что на охоте вместе были председатель Докшицкого райисполкома Олег Пинчук и предприниматель Валерий Янчак, с которым он поддерживал близкие отношения. И погиб 37-летний мужчина якобы от случайного выстрела руководителя района.

Наш собеседник хотел бы знать, продолжает ли Олег Пинчук занимать должность председателя Докшицкого райисполкома или, поскольку продолжается следствие, он отстранен от работы.

Мы позвонили в Докшицы и узнали, что Олег Пинчук продолжает работать в должности председателя райисполкома. По факту убийства Валерия Янчака Городокским РОСК возбуждено уголовное дело по ч.1 ст.144 (причинение смерти по неосторожности) Уголовного кодекса. Устанавливаются обстоятельства произошедшего. Только когда закончится следствие и состоится суд (если он будет), и станет известно, кто конкретно убил докшицкого предпринимателя.

**Виктор ГРЕБНЕВ.**

КРЫМІНАЛ

## ...І адрэзаў вуха

*Незвычайным чынам закончылася сварка ў Стаўбцоўскім раёне.*

47-гадовы мужчына пасварыўся з 55-гадовым суседам. Падчас высвятлення адносін ён збіў апошняга і пры гэтым адрэзаў яму вуха.

Вядома, што падазраваны ў момант здзяйснення злачынства быў п’яны.

**Віктар ШПАК.**

АКТУАЛИИ

Светлана КАЛИНКИНА

## «Ответочка» прилетела

Главная сила Александра Лукашенко, на мой взгляд, становится его главной слабостью, и эта история разворачивается на наших глазах.

Сколько было форсу от «элегантных побед»! Президентские выборы 2006 года – 83 процента поддержки действующего президента, 2010-го – 79,6, 2015-го – 83,5 процента. И явка, по официальным данным, на каждых выборах будто бы доходила до 90 процентов. Центризбирком старался, «правильные» зарубежные наблюдатели от России и СНГ аплодировали, недовольных и сомневающихся клеймили. Но что в итоге?

Маятник политической целесообразности качнулся в другую сторону, и все поменялось.

*«В Беларуси демократии как таковой нет. Выборов там как таковых тоже нет. Как правило, все это проходит по определенным стандартам с назначением что депутатов, что сенаторов, что, собственно, самого президента. У народа Беларуси выбора нет»,* – говорит сегодня член Совета по межнациональным отношениям при президенте России **Роман Безпалько**. Ну а другие российские эксперты ему дружно поддакивают. Нет, мол, у белорусского народа права голоса. Хотя никто из российских чинуш у белорусского народа ничего не спрашивает, но, как только понадобилось развернуть кампанию против Лукашенко, они, заметьте, всё у нас увидели.

Что это значит? Это значит, что начали пристреливаться к уязвимой пяте неуязвимого белорусского Ахиллеса. Александру Григорьевичу прямо намекают: «Парень, твои ссылки на народ не прокатят. За всем следили, все замечали, все знаем».

Не России, конечно, нас учить в вопросах демократии, но без народа Лукашенко действительно не к кому апеллировать. К Западу, к США, к Европе?

Но там ответ такой же. Вот недавно делегация Европарламента отказалась встречаться с белорусскими депутатами в белорусском «Белом доме», потому что они не считают нашу Палату представителей законно избранной. Кто-то надеялся, что в связи с новой политической ситуацией и обострением отношений с Россией требование проведения в Беларуси демократичных выборов отойдет на второй план? Не отошло.

Причину предельно понятно объяснил евродепутат **Пятрас Ауштрявичюс**, который в Минске заявил, что Евросоюз не может вести никаких серьезных переговоров с Беларусью, не может иметь какие-то серьезные договоренности с Беларусью, пока нет гарантии, что завтра страна не окажется в составе России. На вопрос, что может стать такой гарантией, кто может дать такую гарантию, евродепутат ответил предельно понятно: «Народ».

Ответ только кажется слишком абстрактным. Потому что означает он все то же: народ Беларуси должен иметь право голоса, в стране должно быть честное голосование, честные и понятные выборы – такие, которые признает цивилизованный мир.

И со стороны Европы это не происки недоброжелателей, это прагматичная позиция, в которой, собственно, нет ничего нового.

Новое – в России. Вряд ли Лукашенко мог предположить, объявляя о своих убедительных победах, что в «братской России», которая всегда признавала белорусские выборы, его станут упрекать в том, что он не представляет белорусский народ. Но теперь мы и это увидели. В конце ноября, когда Лукашенко «бился» с Путиным за право не становиться вице-президентом Союзного государства (вроде бы именно такая роль отводилась президенту Беларуси в объединенном государстве), когда отказывался, не соглашался, когда говорил, что его не поймет народ, российские СМИ нанесли по нему координированный удар. Они дружно вышли с информацией под типовыми заголовками: «90 процентов белорусов выступают за союз с Россией». Такие данные якобы получил Центр пространственного анализа международных отношений МГИМО. То есть российской публике представили, будто Лукашенко в противостоянии с Путиным выступает от себя лично и еще некоторого количества людей, но совсем не от имени белорусов. Ударили по самому больному.

Конечно, в Минске пытались возражать: «Всё не так, настроения не такие». Только к чему апеллировать? К опросам официальных белорусских социологов? Им нет веры. К мировым социологическим службам, к независимым белорусским исследовательским центрам? В Беларуси они не могут проводить соцопросы на политические темы. А всё почему? Потому что, обеспечивая «элегантность побед» на выборах, запретили независимую социологию; пытаясь скрыть реальные рейтинги действующего президента, на деле открыли возможности для полной его дискредитации.

Круг замкнулся. Куда ни кинемся – спотыкаемся на выборах, на том самом голосе белорусского народа, который сейчас не слышен. И уже понятно, что с нынешней избирательной системой Александр Лукашенко может сохранить власть, но потерять страну. Понимают ли это те, кто готовит очередную «элегантную победу» на выборах-2020?..

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Падпісацца можна толькі за аднаго кандыдата ў прэзідэнты ці адразу за ўсіх?

*Такое пытанне задаюць чытачы "Народнай Волі".*

Вось што адказалі у Цэнтрвыбаркаме: "*Вы можаце аддаць свой подпіс адразу ўсім кандыдатам на прэзідэнцкую пасаду, заканадаўствам гэта не забаронена*".

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

## «Людзі як быццам з ланцуга сарваліся...»

*Учора карэспандэнт «Народнай Волі» толькі ў адной з чатырох сталічных аптэк знайшоў медыцынскія маскі.*

Паведамленне пра тое, што каранавірус прыйшоў у Беларусь, справакавала масавы ажыятаж сярод насельніцтва. Толькі за палову дня 28 лютага ў Мінску раскупілі 70 тысяч медыцынскіх масак. І гэта пры ўсім тым, што медыкі сцвярджаюць: маскі ад віруса не ратуюць, гэта больш сродак, каб не перадаць інфекцыю іншым.

Афіцыйны прадстаўнік Міністэрства аховы здароўя **Юлія Барадун** заявіла, што 29 лютага ў сталічныя аптэкі сеткі «Белфармацыя» паступіла каля 100 тысяч шматразовых масак, а яшчэ каля мільёна прывязуць на склады «Белфармацыі» ў панядзелак 2 сакавіка. Учора днём мы наведалі некаторыя аптэкі ў цэнтры горада...

**Аптэка на вуліцы Леніна, 15.** Пакупнікоў практычна няма. Гэтаксама як і масак і антыбактэрыяльных сродкаў.

«*Мы – прыватная аптэка, а маскі абяцалі развезці па дзяржаўных*, – кажа мне аптэкарка. – *Таму звяртайцеся туды. А ў нас спіртаўтрымліваючыя сродкі разабралі яшчэ ў пятніцу, засталіся толькі на воднай аснове. Можаце ўзяць борную кіслату альбо спіртавую сурвэтку за 4 капейкі*».

**Аптэка на вуліцы К.Маркса, 19.** Таксама прыватная аптэка, вышэйзгаданых тавараў няма.

«*На жаль, пакуль нічога не паступала, можа вечарам нешта падвязуць*, – кажуць мне. – *Людзі як з ланцуга сарваліся, усе ратуюцца ад каранавіруса. Яны думаюць, што маска альбо дэзінфекцыя рук уратуе ад заражэння, але наўрад ці.*

*А зараз народ у паніцы скупляе ўсё, асабліва антывірусныя сродкі. Хаця ніхто не ведае, якія сродкі патрэбны супраць новага віруса, ён жа да канца не вывучаны. Таму людзі купляюць больш для ўласнага самазаспакаення*».

«*У нас медыцынскіх масак няма ўжо месяц*, – адзначаюць і ў аптэцы, што побач з універсамам «Цэнтральны». – *Заказалі, чакаем...*»

**Аптэка №13 «Белфармацыі» на праспекце Незалежнасці.**

«*У продажы маюцца марлевыя шматразовыя маскі па 1,10 рубля*, – нарэшце радуе аптэкарка. – *Танных не будзе, толькі такія. Таксама ёсць антыбактэрыяльны гель для рук за 3 рублі 60 капеек*».

Дарэчы, у такой сітуацыі традыцыйна знаходзяцца спекулянты, якія на ажыятажы грэюць рукі. Таму па аб’явах у інтэрнэце спакойна можна купіць за паўтара-два рублі маскі, якія раней у аптэках каштавалі 30 капеек. Як кажуць, каму вайна, а каму маці родная.

**Алесь СІВЫ.**

ЗДАРЭННІ

## У Мінску таксі пратараніла «Таёту»

*Здарэнне адбылося ўчора каля 8.20 раніцы, паведамляе ДАІ ў сваім тэлеграм-канале.*



35-гадовы таксіст на «Фальксвагене» рухаўся па вул. Заснавальнікаў з боку Калодзішчаў у напрамку вул. Герояў 120-й Дывізіі. Ён выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з «Таётай», якой кіравала 57-гадовая жанчына. У выніку ДТЗ абодва кіроўцы атрымалі цялесныя пашкоджанні. Праводзіцца праверка.

ЗА ПРОХОДНОЙ

# Как будет работать «Атлант»?

*Недавно назначенный генеральный директор ЗАО «Атлант»* ***Дмитрий СОКОЛОВСКИЙ*** *рассказал о своих первых шагах в новой должности.*

«Цель 2020 года – стабилизация финансово-экономического состояния акционерного общества, обеспечение положительной рентабельности продаж, сохранение финансовой устойчивости и платежеспособности, – сказал генеральный директор «Атланта» в интервью заводской газете. – Прежде чем начинать сокращать затраты, необходимо создать систему, не допускающую возникновения новых затрат. В противном случае мы будем тратить больше ресурсов на борьбу с последствиями, которых можно и нужно было избежать. Это будет нашим первым шагом. Второй шаг – анализ выполняемых действий (организационных, технических, экономических) и оценка их эффективности. После этого будут рассмотрены предложения о сохранении, трансформации или ликвидации отдельных процессов».

*Известно, что в конце минувшего года Минский завод холодильников работал четыре дня в неделю, в конце лета – начале осени Завод бытовой техники стоял практически три недели. Будут ли простои в этом году?*

«Во второй половине прошлого года ЗАО «Атлант» оказалось в сложной ситуации, обусловленной резким снижением уровня спроса на наших основных рынках продаж – в России, Беларуси, Украине, – объясняет Соколовский. – Причем снижение наблюдалось как в сегменте бытовой техники, так и в промышленной продукции. Принимая во внимание и ограниченность в ресурсах, были приняты решения об уменьшении объема производства в соответствии с уровнем реализации. При этом наиболее рациональным был признан вариант трехнедельного простоя производства СМА и перехода производства холодильников и морозильников на четыре дня, а также остановка производства бытовой техники с 25 декабря 2019 года до 13 января 2020 года.

Да, руководители компании понимали, что такие решения, мягко говоря, непопулярны, но в прошлом году у нас не было другого варианта, сравнимого по эффективности. И мы смогли в условиях падения объемов реализации и производства сбалансировать денежные потоки и обеспечить финансовую стабильность: у ЗАО «Атлант» не было и нет задолженности по выплате заработной платы, оплате энергоресурсов, платежам в бюджет, возврату кредитов и уплате процентов за их использование».

*Дмитрий Соколовский не хочет рассуждать о том, каково это – возглавить компанию, когда она переживает не лучшие времена.*

«Уверен, что сейчас не время и не место для размышлений над этим вопросом, – *говорит гендиректор «Атланта».* – Сейчас главное – максимально объективно оценить ситуацию, определить вопросы, требующие первоочередного рассмотрения, и работать, работать, работать.

Скажу, что за предыдущие три месяца исполнения обязанностей генерального директора передо мной открылась управленческая бездна, несмотря на то, что последние 15 лет в ЗАО «Атлант» я был заместителем генерального директора…

Здесь важно понимать, что, назначая генерального директора из числа работников нашей компании, глава государства и правительство поверили в то, что мы способны самостоятельно справиться с трудностями, преодолеть их и продолжить развитие в быстро меняющихся условиях ужесточающейся конкурентной борьбы. В «Атланте» я работаю уже 26 лет, в том числе на руководящих должностях – 17 лет. Полагаю, что «Атлант» знает меня в такой же степени, как я знаю «Атлант»…»

### Из личного дела

*Генеральным директором ЗАО «АТЛАНТ» – директором Минского завода холодильников назначен Д.В.Соколовский.*

*Дмитрию Соколовскому 47 лет.*

*В ЗАО «АТЛАНТ» трудится с 1993 года. Работал инженером, инженером-программистом, начальником бюро, заместителем начальника отдела, начальником отдела информационных технологий, заместителем генерального директора ЗАО «АТЛАНТ» по корпоративному развитию и финансам.*

*Гендиректором ЗАО «Атлант» назначен 4 февраля 2020 года.*

ВЫБАРЫ -2020

# Вольга Кавалькова шукае сродкі на прэзідэнцкую кампанію



*Учора сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Вольга Кавалькова распавяла, што камісія, якая правярала яе дакументы для ўдзелу ў праймерыз, не мае прэтэнзій да яе папер.*

– Паколькі прэтэнзій да дакументаў няма, з упэўненасцю магу сказаць, што 4 сакавіка атрымаю рэгістрацыю ў якасці прэтэндэнта на адзінага кандыдата, – *гаворыць Вольга Кавалькова.* – У сувязі з гэтым працягваю фарміраванне каманды і збор сродкаў на маю кампанію. Яны будуць скарыстаны на выпуск відэа- і друкаваных матэрыялаў, рэкламу і іншае.

Я ўдзячна ўсім, хто ўжо ахвяраваў сродкі і падтрымаў мяне. Дзякую за давер. За папярэдні месяц сабрана 3200 беларускіх рублёў. Самае буйное разавае ахвяраванне склала 500 беларускіх рублёў. Спісы ўсіх ахвярадаўцаў будуць апублікаваны пасля маёй перамогі ў якасці прэзідэнта Рэспублікі Беларусь!

**Аліна ВЕТРАВА.**

ШОК!

## Яшчэ адзін труп…

*У Мінску ў рацэ знойдзена цела жанчыны*

Паводле інфармацыі Следчага камітэта, раніцай 2 сакавіка супрацоўнікамі арганізацыі, якая ажыццяўляе ачыстку зліўных каналаў, паблізу дома №17 па вуліцы Сямашкі ў рацэ Мышка было знойдзена цела неўсталяванай жанчыны (на выгляд 40–50 гадоў).

Паводле папярэдніх дадзеных, пры аглядзе цела жанчыны цялесных пашкоджанняў не выяўлена. Жанчыне было 48-гадоў, па папярэдняй інфармацыі, яна не мела месца працы і злоўжывала спіртнымі напоямі.

*«Для ўстанаўлення дакладнай прычыны смерці прызначана судова-медыцынская экспертыза»,* – паведамляе Следчы камітэт.

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ



# Наплявала ў душу...

У найвялікшай з кніг – Бібліі – безліч загадкавых выразаў, якія кожны чытач можа тлумачыць на свой лад, сыходзячы са свайго разумення. Вось адзін з іх: *«І стварыў Гасподзь Бог чалавека з пылу зямнога і ўдыхнуў у твар ягоны дыханне жыцця, і зрабіўся чалавек душою жывою»* (Быццё, 2:7).

Што азначае гэтае загадкавае *дыханне жыцця*, што ажывіла пыл зямны? Я не тэолаг, але асмелюся выказаць здагадку: старазапаветнае дыханне жыцця – гэта мова, менавіта яна ператварыла бязмоўную істоту ў адушаўлёнага чалавека, з мовай ён стаў *душою жывою*.

«Дзе скарб ваш?» – пытаўся апостал Мацвей у людзей будучых пакаленняў. «Скарбы – у душы», – ціха адказаў яму беларус Максім Гарэцкі, які ў беларускую душу зазірнуў ці не найглыбей. Што ён там убачыў – гаворка асобная, але ў народным успрыманні выраз *«шануй як душу»* азначае найвышэйшую ступень павагі. І наадварот, найвялікшую крыўду мы перадаём выразам *«плюнуць у душу»*.

Чалавек, які абражае мову, плюе адушаўлёнаму гэтай мовай народу ў душу. Гэта найвялікшая крыўда, злачынства, якое не павінна заставацца без пакарання. Доўгі час беларуская Феміда на падобныя злачынствы не зважала, хоць у яе распараджэнні меўся адміністрацыйны артыкул пад назвай «Парушэнне заканадаўства аб мовах». Парушэнняў было хоць гаць гаці і паверсе хадзі, а закон марнеў без патрэбы.

І раптам ён спатрэбіўся. Першым за абразу беларускай мовы на лаву падсудных пазалетась сеў былы міліцыянер з Гомеля **Васіль Варушчанка**, які напісаў у сацсетках: «Белорусский язык – это труп, который разлагается и загнивает, его давно нужно закопать поглубже». Наваяўлены далакоп мовы атрымаў штраф – дзесяць базавых, нібыта пакаяўся і паабяцаў надалей трымаць язык за зубамі.

Добрую траву чалавек сее, а ліхая чортведама адкуль бярэцца. Зусім нядаўна ў былога гомельскага міліцыянера знайшлася паслядоўніца – мінская айцішніца **Вольга Малкіна**. Пахваліўшыся веданнем чатырох моў, яна прызналася ў «Фэйсбуку», што «гадкий белорусский язык не изучала сознательно, свою быдломову сами учите». *А на заўвагі фрэндастужкі, што падобныя выказванні парушаюць заканадаўства, цынічна дадала на трасянцы: «Это цирк на дроте. У них не примут заявы, доказательств нет»*. Вось так – не толькі ў душу наплявала, а яшчэ і абцасам расцерла.

Суд не толькі знайшоў доказы, але і пакараў цынічную айцішніцу максімальным штрафам – 270 рублёў. У дадатак ёй давялося шукаць новую працу – ранейшы працадаўца слушна палічыў, што супрацоўніца з заплямленай рэпутацыяй ганьбіць усю фірму.

Трэба сказаць, што «суды за мову» выклікалі неадназначную рэакцыю ў грамадстве. І сярод маіх знаёмых знайшліся абаронцы свабоды слова: маўляў, мове ад тых абраз ні холадна, ні горача, яна жыла, жыве і жыць будзе. Адзін з абаронцаў нават працытаваў радкі Ніла Гілевіча: *«Ды не прывыкла мова плакаць, / Стварыла безліч розных дзіў / У час, калі крыўдзіцель какаць / У мокрых штоніках хадзіў»*.

Згодны, мова не плача. Моўчкі перажыла яна не толькі пляўкі варушчанак і малкіных, але і цэлыя «антынацыяналістычныя кампаніі», што прыводзілі яе носьбітаў і за калючыя драты ГУЛАГа, і да магільных ям у Курапатах. Скажаце, часы змяніліся? А пытанне-лозунг «Можем повторить!» чулі? Гучыць ён з тых самых рупараў…

Можна параўнаць «суды за мову» і з карцінкай з акна вашай кватэры. Напрыклад, перад ім – дагледжаны газон, дзе любяць гуляць вашы дзеці. А жыхар суседняга дома штодзень выгульвае там свайго сабаку, які спраўляе на зялёнай траўцы свае патрэбы. Вы робіце заўвагу, а яны (гаспадар і сабака) па-ранейшаму га́дзяць пад вашым акном. Што вы робіце? Звяртаецеся ў міліцыю.

Хочацца спадзявацца, што прысуды за абразу беларускай мовы паслужаць добрым урокам для ўсіх астатніх ахвотнікаў папляваць-пага́дзіць налева і направа. Сёння (хвала сацсеткам!) іхнія пляўкі навідавоку, ад іх потым няпроста адхрысціцца.

Шкада толькі, што максімальны штраф малаваты. Бывае, чалавечыя гонар і годнасць ацэньваюцца ў судзе мільёнамі, а тут усяго 270 рублёў. Што ж, з паршывай авечкі хоць воўны касмыль. Дарэчы, пры гаспадарскім падыходзе да справы моўныя штрафы маглі б істотна папоўніць дзяржбюджэт. А то несанкцыянаваныя мітынгі адбываюцца ўсё радзей, ды і ладзяць іх пераважна розныя тунеядцы, з якіх потым грошы спагнаць праблематычна. А тут, увёўшы ў Міністэрстве інфармацыі пасаду моўнага інспектара, які маніторыў бы сацсеткі, можна грошай зарабіць не менш, чым фотарадарамі на дарогах.

І кандыдат на такую пасаду ёсць – жыхар вёскі Перасека Рагачоўскага раёна **Ігар Случак**, які і ініцыяваў судовыя працэсы супраць Варушчанкі і Малкінай. Юрыст паводле адукацыі, ён бясплатна, па закліку душы выяўляе ненавіснікаў дзяржаўнай беларускай мовы, а калі яшчэ і заробак за сваю працу атрымае, то, глядзіш, і нафтавую дзірку ў бюджэце заткне.

Усцешна, што грамадскага абаронцу мовы нядаўна падтрымала «Белпошта» – перад хатай Ігара Случака яна за свой кошт усталявала ёмістую, з надпісамі па-беларуску, паштовую скрыню. Маўляў, пішыце часцей, правучвайце агрэсіўных невукаў, якім так карціць павычварацца ў сацсетках.

Што ж, хай вычвараюцца. Да пары да часу. Магчыма, нехта ў апошні момант схамянецца і прыслухаецца да гэтак ненавіснай яму беларускай мовы, якая з лагодным дакорам ціха гаворыць свайму крыўдзіцелю: «Не плюй у крыніцу – прыйдзеш па вадзіцу».

Ах, усё ж не стрымаўся і плюнуў? Тады цябе чакае позва ў суд.

СКАНДАЛ

# Сцяг у Гомелі

Што-што, а здзіўляць гараджан улады Гомеля умеюць. Высеклі ў свой час у цэнтры горада ліпы ды каштаны – на іх месцы пасадзілі кволыя рабініі. Калі рабініі тыя пасохлі, паўсталі ў квадратных формах невялікія туі. Цяпер на вуліцы Савецкай у цэнтры ні таго, ні другога. Нібы горад знаходзіцца па-за Палярным кругам, дзе, апроч лішайніку, нічога не расце.

У скверы імя Грамыкі гарадскія архітэктары і дызайнеры панатыкалі «шэдэўры сусветнай архітэктуры» – фанерныя макеты Нацыянальнай бібліятэкі, Брэсцкай крэпасці, Біг-Бэна, Калізея, Пізанскай вежы, Маскоўскага крмля, Вялікай кітайскай сцяны, егіпецкіх пірамід ды іншых «сабачых будак», як пішуць некаторыя гамельчукі. Плітку на ходніках у цэнтры мянялі ўжо два разы да прыезду высокіх гасцей, але пакуль не спадобіліся ўставіць чырвоныя элементы нацыянальнага арнаменту.

Не сыходзяць у гараджан з языкоў і дзве «залатыя» прыбіральні на набярэжнай Сожа за 1,5 мільёна рублёў кожная. Першую з іх адкрылі ў аўральным парадку ў кастрычніку 2018 года – да пачатку Форуму рэгіёнаў Беларусі і Украіны з удзелам Аляксандра Лукашэнкі і Пятра Парашэнкі. Другую – летась, яна за паўсотні крокаў ад скульптуры першага пасяленца Гомеля. Прыбіральні ўмураваны ў высокі правы бераг Сожа і атрымалі ў горадзе назву «маўзалеяў», бо ўваходы атачаны чырвоным шліфаваным мармурам і моцна нагадваюць маўзалей вядомага камуністычнага правадыра ў суседняй Расіі.

І вось новае дзіва: на плошчы Леніна паміж драмтэатрам і мясцовым прадпрыемствам «Белтэлекам» на заказ упраўлення капітальнага будаўніцтва гарвыканкама распачата ўзвядзенне 60-метровага флагштока для дзяржаўнага сцяга. Кошт будоўлі з чарговай заменай пліткі на прылеглай плошчы зноў-такі амаль паўтара мільёна рублёў. Дакладней – 1 мільён 459 тысяч 797 рублёў, альбо ў пераводзе на валюту – 656 тысяч долараў.

### Зменлівы тэндар

Пра рэканструкцыю плошчы з флагштокам, прылеглай да драмтэатра і прадпрыемства «Белтэлекам», гараджане даведаліся ўвосень мінулага года. Упраўленне капітальнага будаўніцтва Гомельскага гарвыканкама размясціла на сайце інфармацыю пра конкурс на праект «Добраўпарадкаванне плошчы Леніна з устаноўкай флагштока». Кошт праектавання – 30 тысяч рублёў. Дата падраднага кірмашу – 18 лістапада ў 14.10.

Мясцовыя гісторыкі і краязнаўцы дзівіліся: плошча Леніна ўваходзіць у ахоўную зону гісторыка-культурнай каштоўнасці «Палацава-паркавы ансамбль у горадзе Гомель». Любыя навабуды ў ахоўнай гістарычнай зоне забаронены паводле беларускага заканадаўства.

Будаўнічае ўпраўленне адрэагавала – заказ на праектаванне адмянілі. Прынамсі, так было пазначана на сайце. Але гэта быў звычайны хітрык. Ужо ў сярэдзіне лютага на плошчы побач з драмтэатрам з'явілася магутная тэхніка. Рабочыя дзяржаўнага прадпрыемства па азеляненні і добраўпарадкаванні «Чырвоны гвараздзік» узяліся выкарчоўваць пасаджаныя тут не так даўно дэкаратыўныя туі. Пляцоўку атачылі шчыльнай агароджай з металапрофілю. Ніякага пашпарта будоўлі не было.

– Будзем цеплатрасу рамантаваць, – цвердзілі камунальнікі на здзіўленыя пытанні прахожых.

Пра рамонт цеплатрасы паведамлялі і некаторыя афіцыйныя выданні.

### Пяты на пятачку

Калі ж у загародку прыгналі буравую тэхніку акцыянернай кампаніі «Дэльта», нераўнадушныя гараджане сталі біць трывогу. Што будуюць у ахоўнай зоне?

Заснавальнік урбаністычнай ініцыятывы Smart Homel **Яўген Меркіс** датэлефанаваўся да кіраўніцы спраў аблвыканкама **Алены Клічкоўскай**.

– Мае пытанні, – кажа Яўген, – наконт ахоўнай зоны, генплана, грамадскіх слуханняў засталіся, па сутнасці, без адказу. Затое Клічкоўская дала ясна зразумець: «Вялікі дзяржаўны сцяг будзе выклікаць пачуццё патрыятызму». Я нагадаў: «На процілеглым баку плошчы тры флагштокі стаяць, каля тэатра – чацвёрты». Чыноўніца адказала, што «яны не сучасныя».

У тыя ж дні ў абласной газеце з'явіўся каментарый намесніка дырэктара інстытута «Гомельграмадзянпраект» **Віктара Кавалёва**, які пацвердзіў, што інстытут на замову ўпраўлення будаўніцтва гарвыканкама сапраўды распрацаваў праект рэканструкцыі плошчы з усталяваннем флагштока. Вышыня яго – 60 метраў, усяго на 10 метраў ніжэйшы, чым у Мінску. Металічная мачта дыяметрам 1,4 метра каля падножжа будзе мець механічны і ручны пад'ём сцяга. Памер палотнішча – 12х6 метраў.

Зрабіць свайны фундамент узялася «Буравая кампанія «Дэльта». Праект прадугледжвае і ўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі. Праекціроўшчык запэўнівае, што камунікацый у гэтым месцы няма. Гэта аблегчыць справу. Велічэзны сцяг маюць узняць у маі – да Дня Перамогі. Апроч таго, каля драмтэатра нібыта мяняюць цеплатрасу.

### Пра вышыню флагштока і ўзровень патрыятызму

Тым часам урбаністычная ініцыятыва Smart Homel распачала збор подпісаў пад петыцыяй аб немэтазгоднасці выдаткавання бюджэтных грошай на падобныя аб'екты.

«Мы, актыўныя і неабыякавыя жыхары і госці Гомеля, лічым гэтую ідэю памылковай і шкоднай для развіцця горада», – заяўляюць стваральнікі петыцыі.

Яны ўказваюць на адсутнасць дыялогу паміж гарадскімі ўладамі і гараджанамі па ключавых пытаннях развіцця горада: людзей паставілі перад фактам будаўніцтва без правядзення грамадскіх слуханняў ці прэзентацыі аб'екта. Меркаванні гараджан павінны ўлічвацца перад прыняццем рашэнняў наконт вялікіх і знакавых аб'ектаў. Такія непамерныя выдаткі на флагшток падчас эканамічнага крызісу неабгрунтаваныя.

Давер да ўлад пасля скандальнага будаўніцтва адразу дзвюх падземных прыбіральняў і замены пліткі ў цэнтры «добрая на добрую» і без таго ўпаў.

«У петыцыі мы пішам, – дадае Яўген Меркіс, – што ўзровень патрыятызму сярод нас не павялічваецца толькі з вышынёй размяшчэння дзяржаўнага сцяга. У Гомелі існуе вялікая колькасць сапраўды патрэбных інфраструктурных і сацыяльных аб'ектаў – недабудаваныя школы, дыягнастычныя і лячэбныя цэнтры, транспартныя магістралі, неадрамантаваныя вуліцы. Усё гэта сапраўды патрабуе фінансавання. Велічэзны флагшток побач з плошчай Леніна, дзе стаяць тры высокія мачты для сцягоў, лічым нерацыянальнай тратай і без таго абмежаванага ва ўмовах крызісу гарадскога бюджэту».

Пад петыцыяй за пяць дзён падпісаліся больш 4,2 тысячы чалавек. Яна сабрала ўжо дзясяткі каментарыяў. Падтрымліваецца патрабаванне падпісантаў адмовіцца ад затратнай ідэі. Некаторыя грамадзяне здзекліва заўважаюць, што флагшток трэба падняць вышэй, «тады і бюджэт «гомельскай піраміды» павялічыцца ў разоў дваццаць».

Пішуць таксама пра «жорсткі цынізм» улад, задаючыся рытарычным пытаннем: «Яны што, людзей зусім за дурняў трымаюць?!»

Нехта Вітольд Ханецкі лічыць, што «гэта каштуе не больш за 15–20 тысяч долараў». І прыводзіць прыклад, што «нядаўна ў Чэхіі Міністэрства транспарту вырашыла патраціць 16 мільёнаў еўра на сайт-сэрвіс і ўжо падпісала кантракт. Дык маладыя праграмісты ў знак пратэсту супраць марнавання грошай згуртаваліся і зрабілі гэты сайт бясплатна за 3 дні і падарылі дзяржаве. Міністр з-за скандалу пазбавіўся пасады». В.Ханецкі наўпрост пытаецца: «Каго ў Гомелі трэба гнаць паганай мятлой з пасад?»

### Архаіка і сучаснасць

Некаторыя гамяльчане лічаць, што публічны конкурс наконт напаўнення спрэчнай прасторы новымі эстэтычнымі і архітэктурна-дэкаратыўнымі формамі мог бы змяніць сітуацыю. Чарговае скандальнае будаўніцтва, апроч усяго іншага, выкліча дысбаланс у эстэтычным выглядзе плошчы.

Актывіст ініцыятывы Smart Homel **Сяргей Ляпін**, дарэчы, архітэктар паводле адукацыі, заўважае, што дзве вертыкальныя дамінанты – існуючы 40-метровы будынак прадпрыемства «Белтэлекам» і будучы 60-метровы флагшток са сцягам – ніяк не гарманіруюць паміж сабой. Зрокава яны разбураюць прастору. Дыпламаваны спецыяліст звяртае ўвагу на архаічнасць праекта, прадстаўленага «Гомельграмадзянпраектам». Ніяк не ратуе прапанаваны варыянт нават замена звычайнай пліткі на рознакаляровую. Наш суразмоўца згадвае, што сучасную канцэпцыю добраўпарадкавання гэтай тэрыторыі даўно прапанавалі студэнты-энтузіясты з будаўнічага факультэта Беларускага ўніверсітэта транспарту. Улады дарэмна не правялі грамадскіх слуханняў, не скарысталіся распрацоўкай маладых архітэктараў. Плошча з фантанам, несумненна, стала б улюбёным месцам адпачынку, а не кандовай пляцоўкай з узорчатай пліткай і недарэчным тут флагштокам.

Як нераўнадушны гараджанін Сяргей Ляпін разам з інжынерам-будаўніком **Станіславам Сляпухіным**, які пільна цікавіцца ўзвядзеннем флагштока, наведалі ўпраўленне капітальнага будаўніцтва гарвыканкама, каб азнаёміцца з дакументацыяй і разабрацца: чаму шост становіцца чарговым «залатым» аб'ектам? Паглядзець меліся нават не сам праект, а заключэнне будаўнічай экспертызы. Меркавалі так: ну калі ўсё чыста, усё паводле правіл, то якія прытанні? Не ўстаноўка ж для ракет наземнага базіравання!

Супрацоўніца УКБ напачатку спасылалася на наяўнасць у Сляпухіна фотаапарата, пасля на адсутнасць начальніка тэхаддзела. Урэшце прапанавала напісаць заяву на імя кіраўніцтва. Але выйшаў сам дырэктар **Уладзімір Сенажэнскі** і наадрэз адмовіў: «Вы ж не падрадная арганізацыя, а фізічная асоба».

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*Гомель.*

ДАРЭЧЫ

## Хто мераецца флагштокамі

Гомельскі флагшток для афіцыйнага дзяржаўнага сцяга, які выклікаў неадназначную рэакцыю ў горадзе, не самы высокі ў краіне. Не, ён, канечне, «заб'е» сцяг на аблвыканкаме, але не такі высокі, як у Мінску на адмысловай плошчы Дзяржаўнага сцяга. Сямідзесяціметровы мінскі флагшток, аднак, не самы высокі ў свеце, бо займае толькі 13-ы радок у сусветным рэйтынгу падобных атрыбутаў. Іншая справа Саудаўская Аравія – 171 метр. У Таджыкістане ў Душанбэ – 165 метраў. Азербайджанскі флагшток са сцягам у Баку на трэцім месцы – 162 метры.

Развітыя еўрапейскія краіны і ЗША, адзначаюць адмыслоўцы, флагштокамі як сімваламі дзяржаўнасці наогул не мераліся.

Ды і Гомелю наўрад ці выпадае займацца высачэзнымі сімвалічнымі аб'ектамі, калі стагнуе прамысловасць, напаўсілы працуюць такія гіганты, як «Гомсельмаш», калі толькі тры дні на тыдзень выходзяць на працу рабочыя радыёзавода, калі нават у працоўных сем'ях кожная капейчына на ўліку, не кажучы ўжо пра звычайных пенсіянераў, інвалідаў, пра іншыя ўразлівыя групы беларускіх грамадзян.

